Пятніца, 6 студня 1922 г.

# ГОЛАС ГРАМАДЗЯНІНА

АДНАДНЁЎКА.

АДРЕС РЕДАКЦЫІ І КАНТОРЫ: Вільня, Вострабрамская 4, пак. 2. — Цана нумару 10 марак пол.

## Беларускі Сялянскі спісак № 6

### Кандыдатау у Віленскі Сойм, выстауляных „Краевай Сувязьзю“ па Ашмянскаму выбарчаму Вокругу.

1. АЛЯКСЮК ПАВЭЛ. Сялянін вёскі Талмінава, Ашмянскага павету; праўнік, вядомы беларускі дзеяч, многа працаваўшы на ніве беларускага адраджэньня, вядомы абаронца правоў беларускага селянскага народу.

2. КАРЭНДА МІХАЛ, Сялянін вёскі Крыванцы Граўжыскай гміны, Ашмянскага павету,—беларускі дзеяч.

3. БУТКЕВІЧ ПЕТР, 31 год. Сялянін мястэчка Жупраны, Ашмянскага пав,—сьвядомы і шчыры беларус і каапэратар.

4. КАМАРОУСКІ ФЕЛІКС, 60 гадоў, Сялянін мястэчка Крэва Ашмянскага павету, беларус.

5. СУБАЧ ФРАНЦІШАК, 29 гадоў. Сялянін мястэчка Дзевенішкі, Ашмянскага пав. Сьвядомы беларускі працаўнік.

6. ТАРУСЕВІЧ ІГНАТ, 43 гадоў. Сялянін м. Гальшаны, Ашмянскага павету.

7. САПАЧ СТЕЭФАН, 35 гадоў. Сялянін вёскі Яковічы, Беніцкай гміны, Ашмянскага павету.

8. РОДЗКА АНДРЭЙ, 65 гадоў. Сялянін вёскі Яковічы, Беніцкай гміны, Ашмянскага павету.

9. ЧЫЖЭУСКАЯ МАРЫЯ, 22 гадоў. Сялянка вёскі Свірыдовічы, Смаргонскай гміны, Ашмянскага павету, вучыцелька.

10. СТРЫГА АЛЕКСАНДР, 25 гадоў. Сялянін вёскі Лудзінава, Крэўскай гміны, Ашмянскага павету.

Усе беларусы Ашмяншчыны, як адзін, у дзень выбараў, ў нядзелю 8-га студня, павінны йсьці на выбары. Каб ніхто ў гэты дзень не заставаўся дома і ня спадзяваўся, што „абыдзяцца там і бяз яго!

Усе, хто хоча шчасьлівай долі сваей Бацькаўшчыне, павінны галасаваць за свой беларускі сьпісак № 6.

Усе, хто хоча дабра сялянскаму народу, павінны падаваць свае галасы за сялянскі сьпісак № 6.

Толькі ад сваіх праўдзівых беларускіх сялянскіх прадстаўнікоў сялянін-беларўс можа спадзявацца абароны сваіх правоў!

## Беларускі Сялянскі спісак № 5

Кандыдатаў ў Віленскі Сойм, выстаўляных „Краёвай Сувязьзю“ па Камайскаму выбарнаму Вокругу.

1. ШЫШКОУ ВАСІЛЬ. Вядомы беларускі дзеяч, рэдактар газэты „Jednaść“

2. БЭКІШ ЯНКА. Сялянін, вучыцель; сябра беларускай партыі „Сялібнікі“; вядомы беларускі дзеяч ў справах эканамічных і культурна-прасьветных.

3. МІХАЙЛАУ ХВЕДАР. Сялянін вёскі Оцкевічы, Сьвенцянскага павету сьвядомы беларус.

4. ЦЬВІЛЭНЬ МАРЦІН. Сялянін вёскі Мунцовічы, Сьвенцянскага павету, сьвядомы беларус.

5. БАРСУКОУ ВАСІЛЬ. Сялянін вёскі Крукі, Гаўдуцішскай гміны, Сьвенцянскага павету, беларус.

Усе беларусы Камайскага Вокругу, як адзін, ў дзень выбараў ў нядзелю 8-га студня, павінны ісьці на выбары; каб ніхто ў гэты дзень ня заставаўся дома і ня спадзяваўся, што „ абыдзяцца там і бяз яго„!

Усе, хто хоча шчасьлівай долі сваей Бацькаўшчыне, павінны галасаваць за свой беларускі сьпісак № 5!

Усе, хто хоча дабра сялянскаму народу, павінны падаваць свае галасы за сялянскі сьпісак № 5!

Толькі ад сваіх праўдзівых беларускіх сялянскіх прадстаўнікоў сялянін-беларус можа спадзявацца абароны сваіх правоў!

*Вільня, 5 Студня 1922 г.*

У той час, калі Беларускі народ Сярэдняй Літвы, за выключэньнем невялічкай групкі партыйных інтрыганаў і авантурнікаў на мнагалюдных прадвыбарных сходах ясна і цьвёрда выявіў сваю волю— прыняць учасьце у выбарах у Віленскі Сойм і праз сваіх прадстаўнікоў заявіць аб жаданьні далучэньня да Польшчы,—у Ковенскім Сойме дэпутат Рахміловіч ад імяні жыдоўскай фракцыі заяўляе, што „грамадзяне Літвы — жыды, ніколі ня згадзяцца, каб наладзілася граніца паміж намі і горадам, які паводле нашай старай традыцыі называецца Ерусалімам Літвы“.

Мы праконаны—кажа далей п. Рахмілевіч — што супольнымі сіламі як нашых, так і заграмічных супрацоўнікоў і землякоў, разбурым пляны Варшавы і ў агульна—літоўскім Сойме раздадуцца галасы ня акупантаў, а свабодна выбраных прадстаўнікоў усяго вызваленага народу, супольнымі сіламі творучага дэмакратычную Літву.

З гэтых слоў відаць, што жыдоўская фракцыя у Ковенскім Сойме на чале з п. Рахмілевічам саўсім ня хоча лічыцца з жаданьнямі большасьці беларускага народу. П. Рахмілевіч мусі быць думае, што голас жменькі ковенскіх жыдоў і беларускіх здраднікаў з кабінету Ластоўскага мае перавагу прад галасамі мільёна беларусаў-грамадзян Сярэдняй Літвы.

П. Рахмілевіч ня лічыцца з тым, што Вільня для беларусаў гэта ёсьць горад, з якім зьвязаны лепшыя і цэнныя успаміны гістарычнага жыцьця беларускага народа. У Вільні яшчэ у 1517 г. істнавала беларуская друкарня, у якой д-р Францішак Скарына надрукаваў першую кнігу.

І калі п. Рахмілевіч пагарда кажа, што „грамадзяне Літвы—жыды ніколі ня згодзяцца, каб наладзілася граніца паміж Коўнай і Вільняй і кажа гэта ў той час, калі гэтая граніца de fakto ўжо істнуе, дык мы можам яму адказаць, што Беларускі народ не даваў згоды на зьнішчэньне гэтай граніцы. Беларускі народ пашле ў Віленскі Сойм сваіх прадстаўнікоў, дастойных і верных сыноў Беларускай зямлі, і праз іх выявіць сваі пажаданьні.

І ніякія дэкларацыі літоўскага ўраду—абецаньні краёвай аўтаноміі з Соймам у Вільні, ні якія пастановы самазванага Беларускага Ураду, ня змусяць сайсьці беларускі народ з таго шляху, па ка-

## У ЛУЧНАСЬЦІ З ПОЛЬШАЙ ЗБУДУЕМ НАШУ Сьветлую Будучыжу.

